На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

# Народная Воля

№ 165 (517)

Пятніца, 11 верасня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"




**Александр Лукашенко в письме Борису Ельцину предложил провести внеочередную сессию парламентского собрания Союза Беларуси и России и рассмотреть ряд законопроектов, например, «О едином гражданстве Союза».**

**Гаяз АЛИМОВ**

## Президент Белоруссии идет ва-банк



Необходимо напомнить читателям некоторые факты. В вихре политических событий последних лет неискушенному в политике человеку легко утонуть. Итак, два года назад в Кремле в помпезной, но соответствующей духу момента обстановке были подписаны документы об образовании Союза Белоруссии и России. Но союз этот только словесно ласкал слух тех, кто страдал ностальгией по СССР. Союз сложился, но не таким, как это первоначально задумывалось.

Объединения двух государств не произошло. Федеративного государства не возникло. А получилось нечто такое, что в русском языке принято обозначать как «ни рыба, ни мясо». Зато у Союза появились новые органы — Парламентское собрание и исполком Союза Белоруссии и России — высшие органы Союза. Особой активности за ними не наблюдается. Поэтому общественность уже, наверное, и подзабыла об их существовании.

Президент Белоруссии напомнил. Он в последнее время делает неожиданные политические шаги. На фоне раздора в России предложения об объединении двух государств — а законопроекты «О едином гражданстве Союза» и «О парламенте Союза и прямых выборах в него» не оставляют в этом сомнений — могут иметь благожелательный отклик. К тому же время неумолимо умирает само СНГ. Все в нем смешалось, и этот дом глубоко несчастлив, как все несчастливые дома. По крайней мере, те принципы, которые были заложены в основу его существования, разваливаются, как детские песочные сооружения на пляже. Украина не желает иметь никаких политических отношений в рамках Содружества, кроме экономических. С недавних пор абсолютно равнодушны к СНГ Азербайджан и Грузия. Туркмения ушла в свой нейтралитет. Особого вдохновения по СНГ не наблюдается и у Узбекистана. Слабая Россия, к тому же как потенциальный источник всяких напастей, пугает соседей. В этих условиях протянутая белорусская рука действительно может стать весьма соблазнительной соломинкой для утопающего.

..Тогда возможно появление не только союзного парламента, чьи решения будут иметь прямое действие для обеих стран, но легитимное приземление на российском, точнее уже союзном, политическом поле Александра Лукашенко. Он об этом мечтает давно.

*"Известия"*

**От редакции.** Орфография публикации сохранена.

## Беларускія прафсаюзы без міжнароднай падтрымкі не застануцца

Дэлегацыя Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай прыняла ўдзел у рабоце 86-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы. На гэтым значным форуме разглядаліся пытанні, якія датычаць умоў падраднай працы, стымулявання занятасці на малых і сярэдніх прадпрыемствах, а таксама ліквідацыі дзіцячай працы.

Старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, а ён выступіў на пленарным пасяджэнні ў дыскусіі па дакладу генеральнага дырэктара Міжнароднага бюро працы, звярнуў увагу калег на той факт, што спыненая два гады таму тэхнічная дапамога Беларусі з боку Міжнароднай арганізацыі працы адноўлена.

Канферэнцыя аднавіла права голасу рэспублікі ў МАП, бо ўрад Беларусі часткова пагасіў запазычанасць па ўзносах у гэтую ўплывовую міжнародную арганізацыю.

У ходзе работы сесіі дэлегацыя ФПБ дамовілася аб правядзенні на працягу 1998—1999 гадоў вучэбных стажыровак у МАП, семінараў у Балгарыі, Францыі, Кітаі.

**БелТА.**

## Строгія вымовы атрымала група брэсцкіх чыноўнікаў

Групе брэсцкіх чыноўнікаў — работнікам абл- і райспажыўсаюза — вынесены строгія вымовы за распіццё спіртных напояў падчас уборачнай кампаніі.

Яны мелі неасцярожнасць позна вечарам заехаць у рэстаран "Ясельда" пасёлка Лагішын Пінскага раёна на службовым аўтамабілі, каб абмеркаваць у нефармальнай абстаноўцы вынікі праверкі рэвізійнай камісіі аблспажыўсаюза. Ведаючы пра вечарынку, у рэстаран прыехалі старшыня Пінскага міжраённага Камітэта дзяржкантролю В.Мацукевіч і начальнік Лагішынскага ўчастка міліцыі А.Цурыкаў, якія зафіксавалі факт "калектыўнай п'янкі" службовых асоб у банкетнай зале пасля закрыцця рэстарана. Усе ўдзельнікі застолля вымушаны былі падаць тлумачальныя запіскі. На іх шчасце, справа закончылася не звальненнем, а толькі вынясеннем строгіх вымоў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Поздравляем!**



## Есть в Беларуси чемпионы. Европейского уровня...

Новополочанин Алексей Лесничий стал бронзовым призером чемпионата Европы среди юниоров по прыжкам в высоту.

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

**Напярэдадні**

## 10-я сесія Мінскага гарсавета пачне сваю працу 20 верасня

Чарговая, 10-я сесія Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў пачне сваю работу 20 верасня. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі паведаміў намеснік старшыні гарсавета Уладзімір Карагін. Працягласць сесіі, па яго словах, будзе залежаць ад падрыхтаванасці пытанняў, якія будуць вынесены камісіямі на разгляд прадстаўнічага органа ўлады беларускай сталіцы. Усяго ж іх больш за дзесяць.

Найперш на сесіі плануецца заслухаць інфармацыю аб выкананні бюджэту і сацыяльна-эканамічным развіцці Мінска за дзевяць месяцаў гэтага года і даклад старшыні Мінскага гарвыканкама Уладзіміра Ярмошына аб фінансаванні закрытага акцыянернага таварыства "Футбольны клуб "Дынама" (Мінск). Дэпутаты разгледзяць пытанні аб зацвярджэнні пераліку дзяржаўных прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і ўстаноў камунальнай уласнасці, якія знаходзяцца ў выключнай уласнасці дзяржавы, аб стане законнасці і правапарадку пры правядзенні грамадска-палітычных мерапрыемстваў у горадзе, а таксама іншыя актуальныя пытанні жыццядзейнасці сталіцы.

Асобна дэпутаты абмяркуюць праекты Закона аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь і Выбарчага кодэкса. Цяпер гэтыя дакументы разглядаюцца ў дэпутацкіх камісіях гарсавета.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## Настальгія

Апошнім часам усё часцей кіраўнікі рэспублікі выказваюць шкадаванне з выпадку развалу былога Савецкага Саюза. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка пры кожным зручным выпадку асуджае пагадненне ў Віскулях і нагадвае слухачам і тэлегледачам імёны тых, хто яго падпісаў. Камуністычная фракцыя Дзяржаўнай Думы Расіі, рыхтуючыся да імпічменту прэзідэнту, лічыць, што Барыс Ельцын здрадзіў краіне, падпісаўшы пагадненне ў Віскулях у 1991 годзе.

Кіраўнікі Беларусі распад СССР асуджаюць не толькі з прычыны настальгіі па былых часах, але і з намерам патлумачыць сучасны крызіс эканомікі разрывам гаспадарчых сувязей. Ды і пэўныя групы насельніцтва таксама смуткуюць па былым ладзе жыцця.

"Настальгісты" не толькі сумуюць па былой імперыі, але і дзейнічаюць. Вакол Беларусі групуюцца адыёзныя сілы Расіі. Паасобку і групамі прыязджаюць "чырвоныя губернатары". Праводзяцца ўсялякія парламенцкія сесіі, славянскія базары і г.д. Ёсць імкненне надаць эканамічнай інтэграцыі палітычны змест.

Але ці ёсць падставы для настальгіі па былым? Выпадковым ці не быў распад СССР? І наогул, ці так добра жылося людзям у той час, як гэта спрабуюць паказаць адэпты былой сістэмы?

Адразу зазначым глыбокую памылковасць тых, хто думае, што Савецкі Саюз распаўся выпадкова, па волі, як цяпер іранічна выказваюцца, "белавежскіх зуброў". Прабачце, але гэта можа выклікаць толькі іранічную ўсмешку. Агульнавядома, што да віскулёўскіх пагадненняў Расія, паводле рашэння свайго Вярхоўнага Савета, выйшла з Саюза, а на Украіне адбыўся рэферэндум, які выказаўся за незалежную Украіну. Так што Саюза ўжо не было, ён распаўся. І распаўся, у першую чаргу, па эканамічнай нямогласці. ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР за пасляваенны час прынялі 22 пастановы па ўкараненні навукова-тэхнічнага прагрэсу. І ніводная з іх не была выканана. Які больш мацнейшы можа быць доказ неэфектыўнасці сацыялізму?!

Савецкі Саюз пачаў адставаць у эканамічным плане. Спачатку Нямеччына, а потым і Японія абышлі яго па агульным аб'ёме вытворчасці.

Савецкі Саюз распаўся таму, што над эканомікай дамінавала палітыка, якая ніколі не лічылася з эканамічнай мэтазгоднасцю. Стварaўся адзіны народнагаспадарчы комплекс замест таго, каб утвараць рэгіянальныя комплексы. Усё рабілася дзеля таго, каб прывязаць нацыі эканамічна да савецкай эканомікі, зліквідаваць іх і ператварыць у міфічную еднасць "савецкі народ", карацей кажучы — у паслухмяны натоўп.

Узорам такой палітыкі можа быць наша шматпакутная Беларусь. Яе ператварылі ў зборачны цэх. Між іншым, замест таго, каб арганізаваць глыбокую перапрацоўку наяўнай сыравіны і задзейнічаць тыя карысныя выкапні, якія і да гэтага часу ляжаць у нетрах беларускай зямлі некранутымі. Прымацавалі Беларусь да Расіі і двума магутнымі трубаправодамі да Наваполацка і Мазыра. І ніхто не лічыўся з велізарнымі перавозкамі сыравіны і вырабаў на далёкую адлегласць. 400 тысяч вагонаў штодзённа каціліся з грузамі ў розных кірунках. У выніку, Савецкі Саюз вырабляў прадукцыі ў два разы меней за Злучаныя Штаты Амерыкі, а чыгунка перавозіла грузаў у два разы болей. Як у той казцы: "вазіць вам, не перавазіць".

І гэта ў той час, калі на Захадзе была распрацаваная і ўжывалася эканамічная тэорыя, паводле якой эфектыўней развіваць вытворчую кааперацыю, весці ўнутраныя перавозкі на абмежаваную адлегласць. Бо пра якую эфектыўнасць можна весці гаворку, калі перавозкі вяліся і вядуцца на тысячы кіламетраў? Вобразна кажучы, і зараз пад коламі знікае прыбытак многіх прадпрыемстваў. Безумоўна, гэтага не было б, каб развіваліся рэгіянальныя гаспадарчыя комплексы. Але тады развіваліся б і мацнелі нацыі, што не падыходзіла "крамлёўскім летуценнікам".

Няхай хто-небудзь з сумуючых па Савецкім Саюзе назаве хоць адзін факт вырашэння якой-небудзь праблемы на саюзным узроўні. Многа разоў ставілася жыллёвая праблема — засталася нявырашанай. На Беларусі і сёння 600 тысяч чаргавікоў на атрыманне жылля. Шмат разоў абвяшчаліся харчовыя праграмы — таксама засталіся невырашанымі. Дзесяткі мільёнаў тон збожжа закупляліся за мяжой штогод. Спрабавалі павесці барацьбу з алкагалізмам — зноў правал. І так ва ўсім.

"Настальгістам" па былым варта напомніць, што Савецкі Саюз не знік, ён існуе ў скарочаным, так бы мовіць, сціснутым варыянце ў Расійскай Федэрацыі, дзе трэць насельніцтва не рускія. Дык хіба сёння ў Расіі вырашана нацыянальнае пытанне? Нявырашана. Варта згадаць Чэчню, Татарстан, Башкарстан, Дагестан і іншыя краіны, якія не маюць самастойнасці. Пра крызіс эканомікі няма і гаворкі, пра што сведчыць сённяшні фінансавы крызіс. Тыя ж праблемы, што і ў былым Савецкім Саюзе. Заўзятыя рэстаўратары былой звышдзяржавы няхай навядуць парадак у сваім скарочаным Саюзе, перш чым заклікаць да аднаўлення згніўшага на корані кангламерата. Па ўсім бачна, што Расія можа мець і свае ўласныя Віскулі, калі народы не атрымаюць абяцанага палітычнага і эканамічнага самавызначэння.

Ну а людзі? Ці ёсць ім пра што шкадаваць? Няўжо забыліся, якія былі чэргі за каўбасой, абуткам?.. А зарплата. Рабочы-амерыканец атрымліваў у сярэднім 2000 долараў у месяц, а савецкі рабочы ў сярэднім — 120—140 за такую ж працу. Чаму не 800, не 1000 долараў, што адпавядала аб'ёму вытворчасці? Адказ просты: усё ішло на ваенна-прамысловы комплекс, бо падтрымліваць павагу да сябе Савецкі Саюз мог толькі праз ваенную моц. Беларусь была ўсеяна расійскімі гарнізонамі, якія трэба было ўтрымліваць, а вайскоўцаў — карміць. На тэрыторыі Беларусі дзейнічала больш за 200 буйных прадпрыемстваў ваеннага прызначэння.

Так, сёння насельніцтва жыве горш, чым 10 год таму. Але чаму так здарылася? Людзі не хочуць ці не могуць з-за адсутнасці аб'ектыўнай інфармацыі бачыць, што адбываецца наўкола. Напрыклад, чаму настальгіі аб мінулым няма ў Літве, Латвіі і Эстоніі, якія пры савецкім часе былі на аднолькавым з Беларуссю ўзроўні эканамічнага развіцця? Проста таму, што там паляпшаецца з году ў год жыццё людзей. У нас сярэдняя зарплата не дасягае і 70 долараў, а там — 200 долараў і болей, хоць цэны на многія рэчы ў суседзяў ужо ніжэйшыя. Адпаведна і пенсіі там большыя. Вось і ўвесь сакрэт настальгіі ў нас і адсутнасці яе ў прыбалтаў.

Гадамі не павышалася заработная плата настаўнікам, урачам, служачым. Ды і з чаго было павышаць яе, калі дэфіцыт агульнасаюзнага бюджэту ў апошні год існавання Саюза дасягаў каля 200 мільярдаў рублёў? Між іншым, на яго пагашэнне пайшлі ўсе зберажэнні народа, вярнуць якія людзям не ўдалося да гэтага часу ні ў Расіі, ні ў нас. Да таго ж, у былым Саюзе Беларусь у ліку іншых рэспублік была даннікам. Цэнтр забіраў звыш 12 мільярдаў долараў нацыянальнага даходу, і ў тым ліку, як нядаўна пацвердзіў Аляксандр Лукашэнка, чысты вылік штогод складаў 2 мільярды долараў.

Іншая справа, чаму не расце жыццёвы ўзровень зараз, спараджаючы настальгію па былым. А не расце ён найперш таму, што зроблены паварот да ранейшай неэфектыўнай эканамічнай сістэмы і аднаўляюцца старыя сувязі з рэгіёнамі Расіі. Падкрэслім — старыя, а не новыя. Значыць, рэструктурызацыя эканомікі не ідзе і не прадбачыцца. Па-другое, на людзей усклалі непамерны цяжар утрымання велізарнага міліцэйскага корпуса і войска. У разліку на 90 чалавек насельніцтва ў нас утрымліваецца два чалавекі са зброяй. Нельга назваць ніводнай мілітарызаванай краіны, дзе б у разліку на адзінку насельніцтва ўтрымлівалася такая колькасць вайскоўцаў. Інакш як жыццём не па кішэні гэта не назавеш. А плюс да гэтага выдаткі на ўсялякія пыхлівыя святкаванні, парады, спеўныя базары, паездкі ў Нагана і г.д. Таму падаткі мацнеюць. За паўгоддзе ў бюджэт паступіла 93,6 трыльёна рублёў, або 41 працэнт ВУП. Для параўнання: у багатых ЗША на падаткі ідзе толькі 28% ВУП.

Узнікае нерытарычнае пытанне: адкуль жа ўзяць сродкі для павышэння даходаў насельніцтва і як не быць настальгіі па мінулым?

***

І ў якасці прагнозу: у далейшым Беларусь не зможа вытрымаць непамерных выдаткаў на ўтрыманне міліцэйскага корпуса і вайскоўцаў. Хоча гэтага прэзідэнт ці не, усё роўна давядзецца іх рэзка скараціць.

## Дзяржсакратар ЗША заклікала АБСЕ "і надалей падтрымліваць правы чалавека ў Беларусі"

Дзяржаўны сакратар ЗША Мадлен Олбрайт заклікала Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) "падумаць над новай роллю ў міжнародных умовах, накіраваных на вырашэнне канфліктаў і садзейнічанне дэмакратыі". Аб гэтым БелаПАН паведаміла інфармацыйная служба пасольства ЗША.

Выступаючы перад Пастаянным саветам АБСЕ, спадарыня Олбрайт заявіла: "Найбольш важныя праблемы, якія стаяць перад намі сёння, знаходзяцца на перыферыі Еўропы. Багатыя дзяржавы Еўропы нічога не выйграюць ад умацавання свайго адзінства, калі на ўсходзе кантынента свабода пацерпіць паражэнне, а ўсяго ў 200 мілях на поўдзень ад Вены мы дазволім разгарэцца чарговаму крываваму канфлікту". Дзяржаўны сакратар заклікала забяспечыць больш сур'ёзную прысутнасць АБСЕ ў тых дзяржавах, у якіх дэмакратычныя інстытуты яшчэ слабыя ці знаходзяцца пад пагрозай. У прыватнасці, Олбрайт назвала Беларусь; АБСЕ, на яе думку, павінна "і надалей падтрымліваць асноўныя правы чалавека" ў гэтай краіне.

**БелаПАН.**

## У Вас яшчэ ёсць шанц

**Як вядома, першы тэрмін падпіскі на IV квартал прайшоў. Але, на жаль, з-за розных прычын многія чытачы так і не здолелі падпісацца на "Народную волю".**

Дзякуй "Белпошце" і "Белсаюздруку":

**падпіска працягнута да 19 верасня.**

**НЕ СПАЗНІЦЕСЯ НА ГЭТЫ РАЗ.**

**Індэкс "Народнай волі" — 63222.**
**Падпісны кошт: на месяц — 45.000 рублёў, на квартал — 135.000.**

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

**Из первых уст**

*Адам МИХНИК:*

## "Лукашенко – это еще не вся Беларусь"

*Имя этого человека уже вписано в новейшую историю современной Европы. В его судьбе были годы пребывания в тюрьмах и работа в подполье, стремительный взлет и мировая слава, но, несмотря на обстоятельства, он всегда оставался верен себе. Многие поляки справедливо называют его "совестью Польши". Этот человек — главный редактор крупнейшей польской газеты "Газета Выборча" Адам Михник.*

**— Господин Михник, какой год сейчас, на Ваш взгляд, в Беларуси — 1988-й "по-польски" или 1991-й "по-российски"?**

— Очень тяжело ответить на такой вопрос, ведь сегодня ситуация у вас в корне другая. Если можно провести аналогии с Россией, то от польской ситуация очень отличается. Мы никогда не были в составе СССР и не были до конца советской республикой. К тому же в Польше всегда был силен костел, что очень важно. У нас не мог появиться такой персонаж, как Лукашенко, — он никогда бы не смог победить на выборах.

**— На сколько лет, на Ваш взгляд, отстала Беларусь от Польши?**

— Не существует, к сожалению, никакого учебника по трансформации общества, и никто из нас не знает, какой будет Польша через несколько лет; что будет в России; каким будет процесс интеграции Беларуси и России; какой станет Россия после Ельцина. Мы не знаем, каким будет итог всех этих коллизий. Нет механизма, который смог бы обозначить цифру отставания стран друг от друга.

**— Кто мы, белорусы, для Европы, для Польши? Отсталый народ? Жертвы диктата? Терпеливая нация?**

— Для Польши вы, прежде всего, соседи, мы много пишем об этом в газетах, обсуждаем ваши проблемы, сопереживаем. Для Европы, благодаря политике Лукашенко, Беларусь — неполноценное государство. Ваш президент делает большое количество ошибок. Я не знаю, почему он их делает, может быть, он таков по природе. А может быть, у него есть какой-то план вхождения в Кремль через Минск. Беларусь для Европы на сегодняшний день очень опасная точка. Ведь не случайно и российские демократы относятся очень осторожно ко всем этим планам присоединения Беларуси к России.

**— Кто виновен в том, что в центре Европы появилась диктатура — белорусский народ? Россия? Европа?**

— Я стараюсь быть очень осторожным в высказываниях об ответственности. Беларусь пока не самая горячая точка в Европе — есть Сербия, где процессы гораздо страшнее. У вас в стране не типичная диктатура — есть оппозиционные партии, выходят независимые газеты, у Лукашенко есть поддержка части населения. Для вашего режима нужно найти какую-то новую формулировку. Я назвал бы этот режим демократурой — это когда есть демократические институты, но они не функционируют, а находятся под контролем центральной власти. Лукашенко — это не демократ. Я в одной из статей назвал его колхозным Бонапартом. Это определение мне кажется наиболее точным, потому что ваш президент является продуктом советской системы с огромными амбициями.

**— Вам не кажется, что белорусы далеки от Европы потому, что не было в белорусской элите людей, которые были бы близки к Адаму Михнику, Вацлаву Гавелу, Андрею Сахарову?**

— Мне кажется, что дело не только в этом. Дело не в нескольких, пусть даже очень прогрессивных личностях. Даже в Чехословакии и Венгрии не было такого массового движения, какое было в Польше во времена "Солидарности".

У нас не было советского режима — он был полусоветский-полупольский. Церковь в Польше всегда оставалась самостоятельной. Все было по-другому. Однажды, во времена перестройки, я был в Москве. Тогда еще существовал Верховный Совет СССР. На квартире Анатолия Собчака я встретился с белорусским композитором или музыкантом (не могу вспомнить сейчас его фамилию), который был депутатом Верховного Совета. Я спросил у него, что будет с Беларусью, с суверенитетом и так далее. Он мне ответил недоуменным вопросом: "А как может прожить Беларусь без России?". В Польше так никто никогда бы не сказал.

**— В Польше существовал сильный антирусский комплекс?**

— Да, это была другая крайность, но я никогда не поддерживал антирусских настроений. Однажды, выступая по телевидению, я сказал, что считаю себя настоящим антисоветским русофилом. После этого телефон "раскалился" от звонков возмущенных читателей. Некоторые из них мне долго не могли простить слова "русофил". Белорусские демократы, на мой взгляд, допустили серьезную ошибку, когда пытались провести очень быструю белорусизацию. Ведь большинство граждан были русскоязычными, и получилось, что это действие было направлено против них. Украинцы оказались прагматичнее, растянув этот процесс в русскоязычных регионах — в Донбассе, Харькове. В конце концов Лукашенко смог стать президентом на противодействии белорусизации.

**— Как Вы расцениваете нынешний кризис в России?**

— Это полный абсурд. Я в Москве слушал Кириенко, он показался мне умным, современным, прагматичным политиком и, что самое главное, — несоветским. Ведь Черномырдин — это типичный советский хозяйственник. "Газпром — наш дом!". Я очень, очень боюсь этой ситуации.

**— Как Вы думаете, белорусский режим продержится долго?**

— А что значит "долго"? Такой режим может существовать и пять, и десять лет. Я помню конец 81-го года, когда только установилось военное положение. Мы все были убеждены, что режиму отпущен месяц или два. Был популярный лозунг: "Зима — ваша, весна — наша!". Я тогда написал статью "Долгий путь", где говорил, что это может продлиться очень долго. Я оказался прав — это продлилось долгих девять лет.

**— Если бы у Вас была возможность обратиться к белорусам, что бы Вы им сказали?**

— Я хотел бы порекомендовать вам быть осторожнее. Ведь у вас уже был один "старший брат", и не стоит приобретать себе еще одного, пусть даже и Польшу. Поэтому мне бы не хотелось давать какие-то советы и заниматься нравоучениями. Могу лишь сказать, что в лице поляков вы имеете добрых друзей. Я уверен, что у вас будет все лучше и лучше, а поляки хорошо знают, что Лукашенко — это еще не вся Беларусь.

**Николай ХАЛЕЗИН.**

Варшава — Минск.

**Падзея**

## Еўрапейскія Дні спадчыны на Беларусі

*Кожны верасень па ўсёй Еўропе праходзяць Дні спадчыны. У выхадныя мільёны людзей наведваюць гістарычныя мясціны і помнікі, асабліва тыя, што звычайна недаступныя для агульнай грамадскасці. Ініцыятыва Францыі, падтрыманая Саветам Еўропы ў 1991 годзе, зараз з'яўляецца буйнейшай культурнай падзеяй. У ёй прымаюць удзел 44 еўрапейскія краіны. У гэтым годзе Беларусь адзначае Еўрапейскія Дні спадчыны з 11 па 13 верасня.*

У нашай краіне Еўрапейскія дні спадчыны праходзяць ужо ў чацвёрты раз. Сёлета — пад дэвізам "Беларускі рэнесанс". На гэты раз упершыню ў праграму правядзення ўключаны помнікі нашай духоўнай спадчыны.

Беларусь стала цэнтрам святкавання 200-х угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча. І шмат мерапрыемстваў у Еўрапейскія Дні спадчыны будзе прысвечана менавіта гэтай падзеі. 10 верасня ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава "Шлях да Міцкевіча", 12 верасня ў Навагрудку адбудзецца рэспубліканскае свята Адама Міцкевіча. У навучальных установах рэспублікі пройдуць тэматычныя кінавідэазаняткі, лекцыі "Еўропа: агульная спадчына", "Паэта высокія радкі".

12 верасня ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі адкрыецца выстава дзіцячай творчасці "Мой свет — мая надзея". Адбудзецца некалькі прэм'ер відэафільмаў: "Вітаўт"— у Крэве, "Дыярывуш Навагрудскі" — у Навагрудку.

У тэатрах Беларусі ў Еўрапейскія Дні спадчыны можна будзе паглядзець спектаклі па гістарычнай тэматыцы: у Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа — "Несцерку", у Купалаўскім — "Князь Вітаўт", у тэатры "Вольная сцэна" — "Барбара Радзівіл", у Рускім драматычным тэатры — "Раскіданае гняздо".

Адметная рыса Еўрапейскіх Дзён спадчыны — свабоднае наведванне музеяў і гістарычных помнікаў.

**Ганна СОУСЬ.**

**Слышали?**

## Над Лиозно вновь бело-красно-белый флаг!

Политическую акцию Белорусского народного фронта, проводимую 8 сентября в столице республике, поддержали на Витебщине. Утром этого дня жители Лиозно увидели на 50-метровой наблюдательной вышке, находящейся на территории электросетей, бело-красно-белое полотнище. Ни диспетчер электросетей, ни дежурная бригада электриков, дежуривших ночью в административном здании, около которого установлена мачта, не видели, кто и когда вывешивал этот флаг.

Три часа кряду все, кто проезжал по трассе Витебск—Смоленск, наблюдали символ сопротивления. Местные электрики, снимавшие флаг, нашли записку "легендарного Мирона", в которой говорится, что еще наши предки отстаивали свободу под этим флагом.

Президентская охранка, оснащенная самыми современными средствами слежения, передвижения и связи, не в состоянии задержать патриота. Но даже если и найдет, то на место одного встанут десятки других. Ведь белорусы-патриоты не приемлют нынешний официальный символ.

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

**Надвор'е**

**11 і 12 верасня на тэрыторыі рэспублікі чакаецца пераменная воблачнасць, 11-га — па паўночна-заходняй палавіне, 12-га — на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, паўднёвы, 6—11 м/с, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы +8...+13, удзень +15...+20; 11-га па паўднёвым усходзе ўначы +5...+10, ўдзень +19...+24.**

Не пробовали?



# Торт за 500 000 000 рублей

Необычный подарок сделали солигорчанам к 40-летнему юбилею города московские монахи из международного общества "Сознание Кришны" — бесплатно выпекли полуторатонный торт. Такая выпечка для них — это своеобразное хобби. Солигорский юбилейный торт в их списке — шестой. (В этом же списке находится пятитонный торт, изготовленный к 850-летию Москвы.)

Естественно, продуктов на этот сладкий гигант пошло очень много. Например, сгущенного молока — 1,5 тонны, масла — 200 килограммов, ванилина — 2 килограмма. Деньги же на закупку продовольствия, 500 миллионов рублей, выделили предприятия Солигорска.

Шесть человек изготавливали торт в течение четырех дней. По 12 часов в сутки пришлось им трудиться в столовой трикотажной фабрики. Раздали же его за полтора часа.

Разместив торт на прицепе грузовой машины, его доставили в зону отдыха "Ковалевая лоза", где проходили основные праздничные мероприятия. Разукрашенный прицеп окружили и оцепили наряды милиции. Такая мера предосторожности оказалась совсем не лишней. Желающих попробовать сладкого "на халяву" оказалось много. И если бы не работники правопорядка, которые постоянно оттесняли от торта людей, то деревянное ограждение явно не выдержало бы напора.

Поработав хорошенько локтями, потолкавшись в толпе и постояв немного с протянутой через заборчик рукой, около шести тысяч человек получили по кусочку юбилейного торта.

**Алла АМЕЛЬЧЕНЯ.**
**Фото автора.**

Лёсы людскія

# І сніцца мне трава ля дома,

## альбо Чаму чацвёра дзетак так і не змаглі зноў адчуць цеплыню роднай хаты

... Ішоў красавік далёкага ўжо ад нас 1952 года. Буяла, з кожным днём набіралася сіл чарговая вясна. Некалькі дзён заставалася да прыходу светлага і радаснага свята Уваскрашэння Хрыстовага, калі зноў жа ноччу каля ладнага сялянскага дому Вештартаў з вёскі Стары Двор тагачаснага Дунілавіцкага раёна з'явіліся міліцыянты. Яны пастукалі, загадалі адчыніць, а ў хаце далі новую каманду "собираться с вещичками". У далёкую дарогу прымусілі адправіцца і жыўшага разам 99-гадовага дзядулю Івана, вельмі набожнага і цяглага да працы чалавека.

Менавіта ён ажыццявіў спрадвечную мару беларускіх сялян, купіў яшчэ пры даваеннай Польшчы ладны кавалак зямлі, давёў яе да ладу і перадаў свайму сыну Пятру. Той самы надзел ужо ў 1940 годзе быў абрэзаны бальшавікамі з 31 да 15 гектараў зямлі. Увайшоўшы ў маладую сілу гаспадар не мог ведаць, што праз некалькі гадоў пасля вайны карны меч зноў будзе абрушаны на галовы самых лепшых вяскоўцаў. Аднеслі 23 лютага 1948 года Пятра Вештарта да "ворагаў" савецкага сялянства. Ягоную гаспадарку адпаведна зацвердзілі ў лік "кулацкіх" для падатковага абкладання, а ў апаратыўна складзенай і зацверджанай рашэннем райвыканкама характарыстыцы запісалі, што ў ёй "пастаянна працаваў Зыгфрыд Ясінскі, усходняя наёмніца Маруся, сезонна Антон Шырко і іншыя".

Праўда, адказныя таварышы і словам не памянулі, што побач з імі, не пакладаючы рук, працаваў і сам гаспадар. Для савецкіх улад "крамолай" было ўжо тое, што сям'я мела ворнай зямлі на той час 4,8 га, два гектары лесу, каня, карову, цёлку, 6 авечак, сад са 120 дрэў, 13 вулляў пчол і, што зусім недаравальна, конную малатарню і веялку. Каб неяк справіцца з драконаўскімі падаткамі, прыйшлося, на сваю бяду, Пятру Вештарту прадаць адзінага каня, а значыць, не мець магчымасці выканаць дадзены неўзабаве план лесавывазак. Хаваўся ад праследаванняў у Вільні, але быў там знойдзены нкусаўцамі і ў ліпені 1949 года асуджаны на 10 гадоў за зрыў плана лесавывазкі. Не прынялі да ведама ўлады і тое, што сям'я гэтага "кулака" ўкрывала ў сябе, рызыкуючы жыццём, двух збітых і параненых савецкіх лётчыкаў. Але напісаная імі ўдзячная падзяка-даведка, на жаль, недзе згубілася ў віхуры вайны, і яе не змаглі прадаставіць у судовае пасяджэнне. Хоць, на сённяшні розум, наўрад ці яна магла нешта змяніць у лёсе чалавека, прадвызначанага сістэмай на пакуты.

Вось і засталіся чацвёра маленькіх дзетак без бацькі, а ўвесь клопат пра сям'ю прыйшлося ўзваліць на свае плечы матулі. Адчувала яна небяспеку з боку савецкіх улад, спрабавала развітацца з зямлёю, але ўсё роўна гэта не дапамагала. Штогод адносілі сям'ю да "кулакоў", абкладалі непамернымі падаткамі. Ужо і пчол распрадалі, скаціны амаль не было і зямлі засталося толькі 15 "сотак", ад людзей не маглі адчапіцца, і нават адмаўлялі ім у прыёме на працу ў калгас. Мясцовы старшыня Савін, добры чалавек, хоць і не тутэйшы, раіў ім з'ехаць. Але куды ты дзенешся, маючы чацвёра на руках і без бацькі. І хоць у жніўні 1951 года Марыю Вештарт услед за мужам у чарговы раз прылічылі да "варожых элементаў", вырашылі застацца, спадзеючыся на боскую спагаду.

Але бальшавіцкая дыктатура нават у апошнія месяцы жыцця Сталіна не ведала жалю і ценю сумнення. У тую страшную красавіцкую ноч Вештартам было аб'яўлена аб высяленні сям'і ў адміністрацыйным парадку і канфіскацыі раней апісанай маёмасці. "Мы былі падрыхтаваныя да гэтага моманту, — са слязьмі на вачах расказвае мне Н.П.Колас, цяпер пенсіянерка, а тады проста гарэзлівая дзяўчынка Нінка, — і не плакалі асабліва. Толькі неяк не па сабе было, што ў кожным акне стаяў узброены міліцыянер, каб мы не надумалі раптам куды сярод ночы збегчы. Асабліва шкада было старэнькага дзядулю, які добра не мог зразумець, чаго ад нас хочуць гэтыя ваенныя людзі. Ён папрасіў узяць з сабою ў дарогу толькі Біблію, што, на здзіўленне, яму дазволілі. Дзед быў нездаровы, і, калі ехала машына па рытвінах, увесь час войкаў ад болю. Мне так стала яго шкада, калі на старога прыкрыкнуў аховец, што ад крыўды ўкусіла яго за руку..."

Зноў пацяклі слёзы па шчацэ маёй субяседніцы. Крыху счакаўшы і даўшы ёй супакоіцца, паведаміў Ніне Пятроўне, што ў той год у гэтых мясцінах такім чынам было рэпрэсіравана яшчэ больш за 60 сем'яў. Гэтая лічба спачатку нават здзівіла жанчыну, а потым яна з ёй пагадзілася і прыгадала, што двое сутак на чыгуначнай станцыі ў Глыбокім падвозілі і грузілі ў вагоны, прызначаныя для перавозкі жывёлы, няшчасныя сем'і. Другі раз пайшлі насустрач дзядулі, а начальнік поезда згадзіўся пакінуць старога яго родным з гэтага мястэчка. Толькі нядоўга пажыў дзед у Глыбокім, вярнуўся ў апусцелы дом, дзе і пражыў яшчэ з дапамогай карміўшых яго суседзяў два гады. Ён усё чакаў вяртання ўнукаў і адкладваў ім пад ложак гасцінцы, якіх так і не паспрабавалі дзеткі.

Беларускі "кулацкі" эшалон поўз тым часам доўга на Усход у самае пекла Кіраўскага раёна Усходне-Казахстанскай вобласці. Нямала нашых землякоў загінула па дарозе, бо ніякай урачэбнай дапамогі там не прадугледжвалася. Трапілі ў дзікі, суровы, амаль што неабжыты край на "перавыхаванне". Тут трэба было таксама выжыць, бо лютавалі малярыя і дызентэрыя. Праз яе, дарэчы, прайшлі ўсе дзеці з гэтай сям'і. І каб не самаахвярнае сэрца іх матулі, хто ведае, ці засталіся б жыць яны на гэтым свеце. Толькі на ўсё далейшае жыццё аставілі хваробы свой адбітак, і час ад часу даюць аб сабе ведаць болямі ў жываце.

Але ж тады было нават цікаўна, куды яны трапілі. Колькі побач незвычайнага: спякотная гарачыня, вярблюды, каналы, бавоўна і арыкі. Везлі іх са станцыі прызначэння на валах, уразіла, колькі тут сабралі розных людзей. З цікавасцю прыглядваліся беларускія дзеці да пасяліўшыхся побач немцаў, карэйцаў, грэкаў, грузін (іх, дарэчы, неўзабаве вярнулі на сваю радзіму), балгараў, украінцаў. А якімі загадкавымі і таямнічымі здаваліся дзецям казахі. Толькі няволя, нават у паслабленым варыянце, усё ж заставалася няволяй. На кожным мастку, на дарогах дзяжурылі ўзброеныя вайскоўцы, доўгі час без пропуску нават у бліжэйшы райцэнтр не пускалі. Туга па сваёй Радзіме ўвесь час заставалася, часта снілася трава пад роднай хатай, лес, возера. Калі па святочных днях на беразе канала хлопцы з-пад Пінска пачыналі граць на гармоніках, ужо дзяўчаты з Полаччыны зацягвалі родныя песні. І тады ліліся з вачэй матуль маўклівыя слёзы.

Колькі было радасці, калі праз два гады вярнуўся сюды ў час хрушчоўскай адлігі іх бацька. Толькі неўзабаве трагічна загінуў на чужой зямлі Пётр Вештарт. Калі вазілі дровы разам з іншымі, ён, заўсёды шчыры да працы, у час перакуру спрабаваў адзін скінуць з машыны два апошнія бервяны, але не разлічыў свае сілы. І па недарэчнасці зваліўся сам і быў смяротна паранены ў галаву дрэвам. Ён памёр у сельскай бальнічцы, дзе якраз працавала санітаркай дачушка Ніначка. Перад развітаннем назаўсёды бацька пазнаў яе і толькі пашкадаваў, што яшчэ нямала цяжкасцей прыйдзецца на долю дзетак без іх таты.

І сапраўды яно было так. Праўда, праз 7 гадоў незаконнай, як цяпер афіцыйна прызнана, высылкі, гэтай і іншым беларускім сем'ям было дазволена вярнуцца ў родныя мясціны, але без права атрымання маёмасці. Вагаліся, ці варта тое рабіць, але старэйшая дачка, выйшаўшая да гэтага часу замуж, перакапала ўсіх ехаць на Беларусь. Толькі ў родны дом Вештартам так і не далі магчымасці вярнуцца. Выручылі на першым часе добрыя суседзі Шыркі, Кучыцы, Варашкевічы, якія прытулілі сям'ю "кулакоў". Памятаеце, адзін з іх, Антон Шырко пасля вайны ў час пільніцтва рабіў у гаспадарцы Вештарта. Вяскоўцы добра ведалі, што ніякім "кравапійцам" сусед не быў і не мог быць.

Толькі нашы ўлады доўга не маглі гэта зразумець. Аднак у 1992 годзе рашэннем камісіі УУС Віцебскага аблвыканкама гэтая сям'я была рэабілітавана. А праз два гады 22 снежня 1994 года ўжо абласная камісія па аказанні садзейнічання ў забеспячэнні правоў ахвяраў палітычных рэпрэсій прымае рашэнне вярнуць дачцэ незаконна адабраную маёмасць — іх родны дом. Каб дабіцца справядлівасці, сёння ў нашай краіне кожнаму чалавеку прыходзіцца абысці дзесяткі службовых кабінетаў, сабраць безліч паперак і даведак. У поўнай ступені прыйшлося зведаць гэта ліха і Ніне Пятроўне.

Напачатку доўга вадзілі яе за нос у саўгасе "Старадворскі", які стаў правапераемнікам пасляваеннай гаспадаркі. Ранейшае кіраўніцтва саўгаса толькі абяцала вярнуць іх дом, а на самай справе цягнула час. Больш таго, ведаючы аб неабходнасці вяртання маёмасці, дазволілі дом прыватызаваць жыўшай у ім сям'і. Нічога не заставалася Н.П.Колас, як звярнуцца летась у суд Пастаўскага раёна, а дакладней кажучы, з адпаведным іскам па яе заяве выступіла мясцовая пракуратура. І тут трэба аддаць належнае толькі што прызначанаму дырэктару саўгаса І.Дэмбоўскаму, які пайшоў насустрач пацярпеўшым людзям. Яны, параіўшыся разам, ведаючы аб цяжкім фінансавым стане гаспадаркі, нават даравалі ёй 50 мільёнаў рублёў і ў судовым рашаючым пасяджэнні дасягнулі згоды, што саўгас верне ім толькі 80 мільёнаў.

У той дзень, калі была пералічана другая частка неабходнай сумы, даведаўшыся аб гэтым першым, я з добрай весткай наведаўся на кватэру Ніны Пятроўны. Да сястры якраз завітаў малодшы брат Сяргей, які неўзабаве стане пенсіянерам. Асаблівай радасці маё паведамленне не выклікала, хутчэй толькі слёзы аблягчэння і светлай горычы, што пастаўлена пэўная кропка ў працяглай гісторыі іх пасляваенных прыгод. А потым пайшлі ўспаміны аб тым жыцці на чужбіне, калі ў сям'і ні за што адабралі нават родны дом. Па-сапраўднаму шкада стала гэтых, як падалося, добрых і шчырых людзей, якія, нягледзячы на выпаўшыя на іх лёс выпрабаванні, не зачарсцвелі душой, жывуць у ладзе і згодзе і не скардзяцца на свой лёс. А ў іх зараз і пенсіі зусім мізэрныя, здароўе часта падводзіць і нават тыя нешматлікія льготы ахвярам рэпрэсій, прыпыненыя прэзідэнцкім указам.

... Не падымаецца ў мяне рука напісаць пра шчаслівы канец гэтай гісторыі. Тым больш, калі ведаеш, што ў гэтым райцэнтры яшчэ некалькі сем'яў пакуль беспаспяхова спрабуюць дабіцца вяртання незаконна адабранай у той ліхі час маёмасці іх бацькоў. Па сутнасці, наша дзяржава так і не павінілася перад сотнямі тысяч пакрыўджаных, замучаных, абабраных маральна і матэрыяльна. Калі ўсе мы змірымся з гэтым, забудзем сваю сапраўдную гісторыю краю, чорны цень новага ГУЛАГа, перспектыва рабскага існавання можа зноў стаць нашай рэальнасцю.

**Уладзімір ШЫК.**
Віцебская вобласць.

Почему так?

# За проезд в пригородных автобусах по выходным пинчане платят на 50 процентов больше

Пинск — один из тех белорусских городов, где практически каждая семья имеет собственную дачу или родственников в деревне. Поскольку простому человеку почти невозможно прожить на зарплату, то приходится каждые выходные отправляться на сельхозработы, чтобы просто прокормиться. Больше везет тому, у кого участок недалеко: можно, например, на велосипеде доехать или на попутке. Но большинство пинчан спешит утром с ручной кладью на автобусный вокзал.

Быстро поняв, что другого транспорта, кроме общественного, у большинства пинчан просто нет и они все равно поедут на автобусе, начальники местного автопарка №3 подготовили трудолюбивым горожанам своеобразный сюрприз к сезону: теперь и без того немалая стоимость билетов на проезд в пригородных автобусах в выходные увеличивается почти на 50 процентов! Например, в обычный день билет до деревни Плотница стоит 32 тысячи рублей, а в выходной — 47 тысяч. То же самое и со всеми автобусами, которые ходят по Пинскому регону, — в Ивановский, Столинский, Лунинецкий районы. А вот немного дальше, например, до Березы, билет во все дни недели стоит одинаково. Люди уже прозвали это новшество "коммерческими рейсами". Но как нам сообщили в справочном бюро автостанции "Пинск", "это просто такие тарифы" и ни о каких "коммерческих рейсах" разговор не идет.

Вот так — просто такие тарифы! При этом нет совершенно никаких объективных причин, по которым в выходные дни себестоимость проезда обходилась бы дороже, чем в будни. Кажется, в Пинске по выходным дням бензин пока не продается на 50 процентов дороже.

И еще. Вот уже сколько времени, как существует автобусный маршрут "Пинск—Варшава". Очень, казалось бы, хорошо и удобно — не надо ехать в Брест, ходить по кассам да вокзалам: сядешь вечером в Пинске, а утром уже ходишь где-нибудь по Маршалковской. Но что интересно: билет из Пинска до польской столицы стоит 705 тысяч рублей (может, не так уж и дорого за такой сервис, говорят пинчане), а из Кобрина на этом же автобусе — всего 297 тысяч! Получается, что проехать немного больше чем сто километров из Пинска в Кобрин на автобусе "Пинск—Варшава" стоит аж четыреста тысяч! Опять, наверное, пинчан считают самыми богатыми в Беларуси или, может, просто самыми "темными", мол, выдержат.

**Алексей ДИКОВИЦКИЙ.**

*Наш субяседнік — вядомы мінскі рабочы Георгій Мухін.*

# Рабочы саюз — за рабочых!

*У час масавых выступленняў працоўных у 1991 годзе Г.Мухін з'яўляўся сустаршынёй Мінскага гарадскога страйкама. Некалькі гадоў кіраваў дзяржаўным прадпрыемствам "Планком". А не так даўно зноў падаўся ў рабочыя. Цяпер ён працуе аператарам станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем на Мінскім трактарным заводзе. Сустрэліся мы з ім з цікавай нагоды. Але пачалася гутарка аб жыцці рабочых.*

**— Георгій Сямёнавіч, які настрой трактаразаводцаў? Аб чым людзі гавораць падчас перакураў?**

— У асноўным — пра зарплату. А дакладней — як пражыць на яе.

**— А якая зарплата на трактарным?**

— Высокакваліфікаваны рабочы атрымлівае 6—7 мільёнаў у месяц.

**— Дык гэта ж нямала...**

— У параўнанні з зарплатай работнікаў многіх іншых заводаў — сапраўды нямала. Але пры сучасных цэнах цяжка жыць і на такія грошы. Ды майце на ўвазе і тое, што значная частка людзей зарабляе намнога менш і на тым жа трактарным заводзе.

**— Значыць, рабочыя жыццём не задаволены. Але ж і на мітынгі таксама не ходзяць. Чаму?**

— Бо не вераць, што ўдзел у іх дапаможа вырашыць нейкія праблемы. Многія разважаюць так: ну пайду на мітынг, а што гэта дасць? Там жа адны і тыя ж выступоўцы гавораць адно і тое ж. А які вынік? Менавіта такі стэрэатып убівае ў галовы людзей афіцыйная прапаганда. Словам, абалваньваюць...

**— Як рабочыя адносяцца наогул да прафсаюзаў?**

— Да так званых афіцыйных — з недаверам, а пра Свабодны прафсаюз многія мала ведаюць.

**— Як рабочыя думаюць змагацца за паляпшэнне свайго жыцця? І ці думаюць наогул?**

— Думаюць. Многія, з кім я сутыкаюся, лічаць, што варта змагацца за добры калектыўны дагавор з адміністрацыяй, у якім дакладна зафіксаваны правы і абавязкі бакоў, а затым дамагацца яго выканання. На жаль, у рабочым асяродку малавата спецыялістаў па складанні добрых калектыўных дагавораў, няма сістэмы і навыкаў адстойваць іх палажэнні.

**— Цяпер хочацца распытаць пра галоўнае, дзеля чаго мы і сустрэліся. Пайшлі чуткі, што пачынаецца работа па адраджэнні былога Рабочага саюза. Ці так гэта?**

— Так.

**— Тады нагадайце, калі ласка, што гэта была за арганізацыя Рабочы саюз і што з ім здарылася, што яго трэба адраджаць? І ў чым такая патрэба?**

— Многія памятаюць масавыя выступленні рабочых за свае правы ў 1991 годзе. Тады на плошчу Незалежнасці ў Мінску выйшлі больш за сто тысяч рабочых. Узначалілі тую акцыю кіраўнікі Рабочага саюза, які з'явіўся на год раней. Яны стварылі стачкамы на многіх прадпрыемствах і ў многіх гарадах. Дзякуючы ім рабочым тады ўдалося дабіцца значнай палёгкі свайго жыцця. Цяпер у рабочым асяродку ўсё часцей успамінаюць тыя дні і гавораць аб неабходнасці адраджэння Рабочага саюза.

**— А што з ім здарылася тады?**

— Ён трансфармаваўся ў неафіцыйныя прафсаюзы, якія зараз абараняюць правы працоўных.

**— Дык які ж сэнс адраджаць Рабочы саюз?**

— Прафсаюзы не займаюцца палітыкай. А эканамічныя праблемы цесна пераплятаюцца з палітычнымі. Да розных партый у рабочых пэўны недавер. Многія не хочуць уліваццa ў іх рады. А вось давер да былога Рабочага саюза захаваўся. Адным словам, рабочыя хочуць мець сваю арганізацыю, якая адстойвала б іх інтарэсы.

**Гутарыў з Георгіем Мухіным Уладзімір МАКАЛОВІЧ.**

І самі з вусамі

# І будзем мець сваю глюкозу

Вытворчасць крышталічнай глюкозы магутнасцю 5000 тон у год будзе арганізавана ў Драгічыне на базе прадпрыемства "Экзон" рэспубліканскага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі. У адпаведнасці з рашэннем урада з бюджэту краіны на будаўніцтва гэтага аб'екта плануецца накіраваць 120,9 мільярда рублёў.

"Паводле заключэння экспертнай камісіі новае прадпрыемства абяцае немалыя выгады, — сказаў карэспандэнту БелТА намеснік генеральнага дырэктара канцэрна "Белбіяфарм" Леанід Шарко. — Да таго ж прадукцыя гэта дасць магчымасць зэканоміць рэспубліцы нямала валюты, бо цяпер яе набываюць за межамі краіны. А мінімальная патрэбнасць Беларусі ў глюкозе хоць і знізілася за апошнія сем-восем гадоў у два разы, але ацэньваецца ў 1200 тон. Астатнюю частку выраблeнай прадукцыі можна будзе экспартаваць".

**Іван КУКСА,**
**БелТА.**

Як жывеш, глыбінка?

# Калі толькі гарэлка — ходавы тавар...

Па два, а то і нават тры дні не бывае ў продажы свежага хлеба, булак, не гаворачы ўжо пра каўбасныя вырабы, мясапрадукты ў магазіне вёскі Багданова Сенненскага раёна. Даўно тут знік з прылаўкаў і цукар. Мясцовыя прадаўцы "вызначыліся" хіба тым, што за гандаль заляжалымі таварамі ўплацілі нядаўна штрафы ў памеры 500 тысяч рублёў. Адзіным таварам у гэтай і большасці іншых крамаў на вёсцы, які рэгулярна прысутнічае на прылаўку, была і застаецца гарэлка і віно. Мала чым адрозніваецца сітуацыя і ў горадзе.

Па-ранейшаму ўсюды насельніцтва вялікую частку грошай аддае на набыццё алкагольных напіткаў. Згодна з данымі абласнога ўпраўлення статыстыкі за 1997 год моцныя напоі ў агульным аб'ёме групы харчовых тавараў па продажы апярэдзілі ўсе астатнія і склалі 22 працэнты таваразвароту. На Віцебшчыне 4 тысячы магазінаў і больш тысячы кафэ, бараў і рэстаранаў прадалі ў сярэднім на кожнага жыхара вобласці па 27 бутэлек віна, 23 — піва і больш чым па скрынцы гарэлкі. У сваю чаргу кожны жыхар здолеў за год спажыць толькі 12,6 кілаграма мяса, крыху больш за 7 кілаграмаў мукі і 3,4 кілаграма масла. Дрэнна гэта ці добра, хай вырашыць для сябе кожны.

**Уладзімір ШЫК.**

# Музей Владимира Короткевича предполагается открыть к 70-летию со дня рождения писателя

Музей классика белорусской литературы, известного деятеля белорусского возрождения Владимира Короткевича предполагается открыть в Орше к 70-летию со дня его рождения, которое будет отмечаться 26 ноября 2000 года.

По словам директора музея Риммы Кузьмицкой, в настоящее время идут работы по реконструкции музейного здания и подготовке комплекса вещевых, изобразительных и документальных материалов экспозиции. В этом старинном доме на рубеже XIX—XX веков вначале находилась Оршанская таможня, позже здесь практиковал местный врач, а в 30-е годы нынешнего века в здании разместилась больница, где появился на свет будущий поэт.

Художественным символом музея станет бронзовая скульптура Владимира Короткевича, который как бы вышел на крыльцо покурить, встретить гостей и провести их в свой кабинет, где всегда будет светиться огонь его настольной лампы. "Это художественное решение авторского коллектива по разработке проекта музея, который возглавляет друг писателя Петр Драчев, пришлось нам по душе, — сказала Римма Кузьмицкая. — Для нас важны воспоминания всех тех, кто знал этого интересного, доброго и обаятельного человека, чтобы полнее представить его удивительный образ".

**Марат ГОРЕВОЙ.**

# З-за пастаянна растучай інфляцыі ў Гомелі рэзка павялічыўся попыт на многія віды тавараў

Імклівая інфляцыя стала прычынай панікі сярод гамяльчан. Насельніцтва актыўна скупляе прадукты харчавання, асабліва крупы, муку, цукар, алей. Цэны на іх на харчовых рынках узраслі на 20—30 працэнтаў, а ў магазінах набыць іх ужо практычна немагчыма. Таксама істотна ўзрос попыт на аўдыё- і відэатэхніку, мэблю, дывановыя вырабы. Зніклі з продажу халадзільнікі і тэлевізары.

На "чорным" рынку долар ЗША ў Гомелі купляюць па 95—100 тысяч рублёў, а прадаюць па 120 тысяч. Прычым, як адзначаюць валютчыкі, людзі не імкнуцца купляць валюту, а наадварот, здаюць яе, каб паспець атаварыцца.

# Малая прыватызацыя ў Гомелі практычна згорнута

Малая прыватызацыя ў Гомелі практычна згорнута. Аб гэтым заявіў карэспандэнту БелаПАН начальнік упраўлення камунальнай уласнасці і прыватызацыі Гомельскага гарвыканкама Васіль Некрашэвіч.

На васьмі аўкцыёнах, якія прайшлі з пачатку года, прададзена ўсяго пяць аб'ектаў, прычым толькі адзін з іх — магазін — дзеючае прадпрыемства. Усяго ж у гэтым годзе прадугледжвалася прадаць з таргоў 23 аб'екты. Аднак па рашэнні працоўных калектываў 11 прадпрыемстваў будуць пераўтвораны ў ААТ, што дазваляе дэкрэт прэзідэнта "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў РБ".

Такім чынам, астатнія сем аб'ектаў і будуць складаць "асартымент" гомельскіх аўкцыёнаў да канца гэтага года. На сёння ў Гомелі прыватызавана больш за 210 прадпрыемстваў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання, ці 45 працэнтаў. Але толькі 106 з іх змянілі форму ўласнасці праз продаж з аўкцыёну.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ,**
**БелаПАН.**

"Непричесанное" письмо

# Государство в роли... рэкетира,

## или Мысли вслух о том, кто дал право правительству Республики Беларусь вымогать и распоряжаться деньгами своих граждан

Итак, все началось с публикации в местной газете "Калинковичские новости" (28 мая 1998 г.) обращения администрации райгаза к жителям квартир, проживающим в многоэтажных домах и пользующимся сжиженным газом от ёмкостных установок. В этом обращении сказано:

*"...В связи с тем, что город будет постепенно переходить на использование природного газа,* **населению необходимо установить приборы учета расхода газа**, *т.к., согласно постановлению Совета Министров РБ №855 от 9.07.97 г., оплата за используемый газ* **будет взиматься, исходя из максимальной мощности приборов... оплата** *за использованный газ по установленной мощности приборов* **будет начисляться с 1.07.98 г.** *Приборы учета имеются на предприятии газового хозяйства. Для их установки необходимо* **подать заявление, оплатить стоимость счетчика и стоимость работ, что на сегодняшний момент составляет 2,5 млн. рублей..."**

Сразу же возникли вопросы, недовольство, возмущение, недоумение не только у меня, но и у большинства знакомых и соседей:

— Почему нас заставляют (!) покупать счетчики да еще при этом делать вид, что мы этого желаем (написав заявление)?

— Почему Совет Министров держит в руках палку и грозит: если не установите и не купите счетчики, то **с 1.07.98 г. будете платить за газ, исходя из максимальной мощности приборов**?

— Почему Совет Министров считает, что пенсионеры и другие лица, получающие пенсии и заработок не более 2—2,5 млн. руб., имеют возможность эти деньги (2,5 млн. руб.) потратить на покупку и установку счетчика? На какие деньги тогда они будут жить?

**— Соответствует ли вышеуказанное постановление Совета Министров Конституции Республики Беларусь?**

*НИКТО не имеет права нахально залезать в карман законопослушного гражданина своей страны и под страхом наказания изымать у него деньги.*

В связи с вышеизложенными вопросами и мыслями, 24.06.97 г. я обратился в Конституционный суд Республики Беларусь с просьбой рассмотреть обоснованность и соответствие Конституции Постановления Совета Министров РБ №855 от 9.07.97 г. и 2.07.98 г. получил ответ (правда, не на мои вопросы):

*"Концерн "Белтопгаз"...*

*Копия — Володарскому Е.В.*

*Направляем обращение гр.Володарского по вопросам, связанным с установкой измерительных приборов потребления природного газа и порядком оплаты за использованный газ, для рассмотрения и ответа заявителю...*

*Первый заместитель начальника секретариата А.А.Дударенко.*

Вот и весь сказ.

20.07.98 г. президент концерна "Белтопгаз" Э.Ф.Товпанец ответил:

"...В настоящее время население оплачивает только 30% затрат на приобретение и транспортировку газа... В целях экономного использования газа правительством было принято решение об **обязательном оснащении всего жилого фонда** республики приборами поквартирного учета его расхода... В соответствии с указанным постановлением, оснащение существующих газифицированных жилых домов (квартир) всех форм собственности осуществляется **за счет средств их владельцев... В случае, если жильцы отказались от установки счетчиков в сроки, они должны вносить плату за газ, исходя из мощности установленного оборудования** (вот она, палка! — **Е.В.**). Граждане, установившие счетчики за собственные средства, в первые 3 года рассчитываются за газ на основании показания счетчика с 10-процентной скидкой... Такое решение принято правительством в целях **частичной компенсации** затрат, понесенных населением на приобретение и установку приборов учета расхода газа".

Несколько мыслей к данному ответу:

— Зачем в качестве упрека говорить о 30% оплаты за газ? Это некрасиво и нечестно. Все бы согласились платить 100% стоимости. Но тогда и пенсии, и зарплату нужно поднять до уровня тех стран, где за газ платят сполна. А если этого нет, то зачем нас укорять?!

— 10-процентная скидка в течение 3-х лет нереальна для многих пенсионеров, кому уже около 80 лет и более, но и она (скидка) — это лишь **частичная** компенсация. Опять же повторяется грабеж и рэкет со стороны государства: то отобрали вклады у населения и собираются как-то **частично** их компенсировать, а теперь заставляют покупать счетчики и платить за их установку, обещая опять же **частично** (?!) компенсировать затраты. А людей не спрашивали.

— И последнее. Зачем же тех, кто не может найти и выложить 2,5 млн. руб. за счетчик, **наказывать очень повышенной (!) оплатой за газ**? Какую же провинность эти люди допустили? Зачем с таких людей драть три шкуры?

Почему мы, люди, граждане Республики Беларусь, не являемся предметом заботы и внимания тех государственных структур, коим положено обеспечить наши права и свободы? Почему с нами обращаются, как с крепостными? Как на все это смотрят Конституционный суд, Национальное собрание, президент РБ?

**Ефим ВОЛОДАРСКИЙ,**
**ветеран Отечественной войны,**
**ветеран труда.**
г.Калинковичи.

Острая тема: продолжение разговора

# "Держать и не пущать"?

Мы, граждане Беларуси, — а среди нас есть, к слову, и русские, и украинцы, — не удивлены тенденциозностью писем, полученных Госкомитетом по печати. В них "товарищи" требуют ни много ни мало: "не допускать" к средствам массовой информации таких сведущих авторов, как доктор наук П.Костюкович и, разумеется, "прикрыть" "Народную волю", опубликовавшую статью о русском фашизме.

Эдакое единодушное возмущение! А ведь подобное уже было в нашей истории, когда единодушно одобряли или единодушно клеймили то, что было нужно "вождю всех времен и народов". Нас не удивило и то, что председатель Госкомпечати **обязал** независимую газету опубликовать эти письма. А как иначе? Общество "Русь" и "Комитет трудового народа" пригрозили М.Подгайному: коль не последует "должного" реагирования, "искать правды" в более высоких инстанциях.

Каким же надо быть слепцом, чтобы не видеть того, о чем так обстоятельно сказал П.Костюкович! Великодержавный российский шовинизм — это не привидение, а реальное отношение российского государства и к народам, населяющим саму Россию, и к народам, объявившим себя суверенными. И те пять составляющих российского шовинизма (государственная, языковая, духовная, социально-экономическая и информационная несправедливость), о которых говорит П.Костюкович, явились основой для проявления в России уже в наши дни его крайней угрожающей и агрессивной формы — фашизма. "Русское национальное единство" (РНЕ), баркашовцы, примыкающие к ним лимоновцы с их "Русским порядком", свастика, вскидывание вверх рук в приветствии очередного фюрера, возгласы "Хайль"...

Бациллы этой чумовой заразы есть уже и в Беларуси. Вас это не пугает — товарищи, пишущие грозные послания в "инстанции"? Не разобравшись в сути статьи П.Костюковича, выхватив из нее пару словосочетаний, вы берете на себя смелость утверждать, будто "Народная воля" не отражает интересов народа. По какому праву вы отвечаете за весь народ? А кто же отражает ваши интересы? Не скажете? Скорее всего — "Советская Белоруссия", "Знамя юности", телевизионный "резонатор" Зимовский, радиоведущий Богодяж с его зловещей "Позицией"? А может быть, газета Комаровского рынка "Славянский набат" и ее политический обозреватель В.Акулов?

Нас, белорусов и русских, осознающих опасность современного фашизма, о котором уже заявляют сами русские в России, очень тревожит, что в Беларуси уже есть проводники этой чудовищной идеологии. Профашистская организация "бритоголовых" в Бресте, оскверняющих памятники жертвам фашизма, такие же "бритоголовые", провоцирующие драки на пр.Скорины в Минске с криком "Русский порядок" и т.п. И тысяча человек в белорусском отделении "Русского национального единства". Это, конечно, пока цветочки. Ядовитые, смертоносные.

Речь не идет о русском народе как таковом. Речь — о фашизме, расползающемся не только по России. И потому жаль людей, однобоко информированных, утративших способность анализировать происходящее вокруг, но... исправно пишущих в "инстанции" и требующих "запретить", "не пущать", "закрыть", "осудить" и т.п. газету, а не остановить маховик фашизма, набирающий обороты и в Беларуси. Вы что — ждете не дождетесь, пока он раскрутится вовсю?

**Т.БЕЛАЯ, Н.БЕЗРУКОВА, С.БЕЛЬСКАЯ, Л.СЕВАСТЬЯНЧИК, И.БАРТЕНЕВА, Л.ЗАЙЦЕВА, В.СИДЕНКО, жители Минска.**

